№ 42 (1855)
Серада, 10 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -2...0, без ападкаў, уначы — -3...-1, снег; у Брэсце ўдзень — -1...+1, уначы — -1...+1, на працягу сутак — снег; у Гродне ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Віцебску ўдзень — -3...-1, уначы — -4...-2, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -1...+1, сонечна, уначы — -2...0, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -1...+2, без ападкаў, уначы — -2...0, снег.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Прадпрымальнікі звярнуліся ў суд

Як і прадказвалі песімісты, лютаўскі канфлікт прадпрымальнікаў Віцебска з мясцовымі ўладамі, які выліўся ў маштабную забастоўку з галадоўкай, памяркоўна вырашыць не ўдалося. Нягледзячы на нечаканую маральную падтрымку з боку Аляксандра Лукашэнкі, які з тэлеэкрана аб'явіў прадпрымальнікаў "нашымі людзьмі", забастоўшчыкі так і не пачулі ад кіраўніцтва Віцебска і вобласці слушных прапаноў для "замірэння".

І вось вынік: кропку ў канфлікце павінен паставіць Гаспадарчы суд вобласці, які днямі (з 11 сакавіка) пачынае слуханне справы па іску прадпрымальнікаў аб прызнанні несапраўдным рашэння Віцебскага гарвыканкама аб перайменаванні крытых рынкаў "Прывакзальны" і "Пятроўскі" ў гандлёвыя цэнтры з адпаведным павелічэннем нязручнасцей і выдаткаў для прыватных гандляроў.

## Ветрына — у сусветным «павуцінні»

Першы на Віцебшчыне перамоўны пункт калектыўнага карыстання з паслугамі Інтэрнета адкрыўся ў пасёлку Ветрына Полацкага раёна. Цяпер мясцовыя жыхары змогуць карыстацца ўсімі відамі сучаснай сувязі. У новым пункце ўсталяваны 4 перамоўныя кабіны, 3 камп'ютэры для індывідуальных карыстальнікаў з выхадам у Інтэрнет, а таксама ксеракс, тэлефакс і прынтэры для раздрукоўкі матэрыялаў, атрыманых з Сусветнай сеткі. Тут жа можна адправіць тэлеграму, заплаціць за паслугі сувязі, набыць тэлефонны апарат, радыёпрыёмнікі і тэлефонныя даведнікі.

Адкрыццё сучаснага пункта сувязі — адно з шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных 500-годдзю пасёлка Ветрына, якое будзе адзначацца сёлета.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## «Пахудзела» заработная плата

Сярэдняя заработная плата па Віцебскай вобласці ў студзені 2004 года паменшылася ў параўнанні са снежнем 2003-га на 6,2 працэнта. Паводле даных абласнога ўпраўлення статыстыкі, працуючым жыхарам Прыдзвіння за першы месяц года ў сярэднім налічвалі 257.326 рублёў (у пераліку каля 95 еўра).

Найвышэйшым сярэдні паказчык зарплаты застаецца ў банкаўскіх служачых — 617.388 рублёў. Адметна, што другі радок стабільна ўтрымліваюць работнікі органаў дзяржаўнага кіравання (395.249). У сярэднім крыху больш за 300 тысяч за студзень налічвалі ў сферы транспарту (321.322), сувязі (316.977) і будаўніцтва (307.459), а ў прамысловасці зарплата не дацягнула і да гэтага ўзроўню: яна склала 299.246 рублёў.

Як заўсёды, самая сціплая зарплата ў бюджэтнікаў: работнікі адукацыі (245.416), аховы здароўя (244.013), культуры (215.270) і мастацтва (200.788). Яшчэ меншая зарплата ў сельскай гаспадарцы. Сярэдняя зарплата, налічаная за студзень, склала 114.884 рублі, што ў пераліку — крыху больш за 42 еўра.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Тры медалі зборнай

*Два сярэбраных і адзін бронзавы медалі заваявалі беларускія лёгкаатлеты на чэмпіянаце свету ў залах, які 7 сакавіка завяршыўся ў Будапешце (Венгрыя).*

Апошні дзень спаборніцтваў прынёс беларусам два "срэбры". Наталля Сафроннікава заняла другое месца ў фінале бегу на 200 метраў з вынікам 23,13 секунды. Яна на 0,35 секунды адстала ад расіянкі Анастасіі Капачынскай і на 0,02 секунды апярэдзіла яе суайчынніцу Святлану Ганчарэнка. Яшчэ адзін медаль быў заваяваны ў эстафеце 4 па 400 метраў. Наталля Салагуб, Ганна Казак, Ілона і Святлана Усовіч пераадолелі дыстанцыю за 3 хвіліны 29,96 секунды, усталяваўшы нацыянальны рэкорд. Чэмпіёнкамі свету сталі расіянкі, якія ўсталявалі сусветны рэкорд (3.23,88). На трэцім месцы каманда Румыніі (3.30.06). Варта зазначыць, што ў паўфінале беларускі былі першымі (3.31,25), апярэдзіўшы расійскую каманду на 0,02 секунды.

У той жа дзень Дзмітрый Валюкевіч заняў чацвёртае месца ў трайным скачку з вынікам 17 метраў 22 сантыметры — на 14 сантыметраў горшым, чым у бронзавага прызёра кубінца Ёандры Бетанзаса.

Андрэй Міхневіч быў шостым у штурханні ядра (20 метраў 50 сантыметраў). Пераможцам стаў амерыканец Хрысціян Контвел (21,49).

Па колькасці і якасці медалёў зборная Беларусі паўтарыла леташні вынік у англійскім Бірмінгеме. У агульным заліку яна заняла 16-е месца. Больш за ўсё ўзнагарод на рахунку зборных Расіі — 19 (8-6-5) і ЗША — 10 (4-5-1). За кожны залаты медаль арганізатары чэмпіянату свету выплацілі 40 тысяч долараў ЗША, за сярэбраны — 20 тысяч, за бронзавы — 10 тысяч.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**



СЛЫШАЛИ?

# Беларуси грозит участь Мьянмы

**Сергей ПУЛЬША**

Похоже, что политика власти в отношении профсоюзного движения влетит нашей стране в хорошую копеечку. То, о чем раньше говорилось, как о гипотетической возможности, начинает сбываться самым пренеприятнейшим образом. Европейский союз начинает официальное расследование нарушения прав профсоюзов в Беларуси.

Как заявила пресс-секретарь Еврокомиссии **Аранча ГОНСАЛЕС**, расследование коснется нарушения властями Беларуси основных профсоюзных прав. А именно - ограничения профсоюзной деятельности, нерегистрации профсоюзов и давления на профсоюзных лидеров, сообщает белорусская служба Радио Свобода. Если факты этих нарушений подтвердятся, наша страна может лишиться прав на специальные экспортные тарифы в торговле с Евросоюзом. Ранее такой шаг предпринимался только один раз семь лет назад - в отношении Мьянмы (бывшей Бирмы) за использование детского труда.

Аранча Гонсалес сообщила, что объем годового экспорта Беларуси в страны Евросоюза составляет 587 млн. евро. Из них около 190 млн. - торговля с преференциями. Если Беларусь будет этих преференций лишена, то ее потери составят примерно 100 млн. евро.

Расследование Евросоюза будет длиться шесть месяцев. Параллельно с ним будет идти и расследование Международной организации труда, комиссия по Беларуси в которой была создана 19 ноября. В наступившем году намечен визит специальной комиссии МОТ по "белорусской проблеме".

Лидер Белорусского конгресса демократических профсоюзов **Александр ЯРОШУК** называет два расследования — МОТ и ЕС — достаточно тревожным знаком для власти:

— Это очень серьезно. То, что Европейская комиссия сочла нужным рассмотреть белорусский вопрос в первые дни нового года (а у них хватает своих проблем), говорит о многом.

Нужно иметь в виду, что преференции в торговле - это своеобразная премия тем странам, которые встают на путь демократии, соблюдают права профсоюзов и права человека. И, кстати говоря, решение о предоставлении преференций инициируется международными профсоюзными организациями. То есть это поощрение тем странам, которые придерживаются общепринятых норм международного права в работе с профсоюзами.

Наше руководство на протяжении ряда лет демонстративно нарушает права профсоюзов и права человека. Фигурально выражаясь, Беларусь сама отказывается от системы этих преференций. Все, что мы можем сделать по этому поводу - всего лишь в очередной раз выразить сожаление и опять призвать руководство страны к соблюдению прав профсоюзного движения.

Пресс-секретарь Министерства иностранных дел **Андрей САВИНЫХ** в интервью "Белорусским новостям" сказал, что говорить о потерях преференций Беларусью пока рано:

— Официальной информации в МИДе по поводу создания комиссии пока нет. Поэтому рано говорить о том, начато расследование или нет. И соответственно нельзя говорить о каких-то потерях для Беларуси. Во-первых, неизвестно, насколько корректны цифры, кто и как делал этот расчет. Во-вторых, система сниженных ставок таможенных пошлин на белорусские товары подразумевает их расчет в процентах, а не в абсолютных цифрах. В-третьих, преференции для Беларуси регулируются отдельным соглашением - соответственно ЕС должен будет пересматривать это соглашение.

Однако нет никакой причины не доверять пресс-секретарю Еврокомиссии. Так что, похоже, официальный Минск в этом году ждут новые испытания - несмотря на недавнее указание президента активизировать работу по улучшению отношений с США и ЕС.

*("Белорусские новости".)*

ЗАКУЛИСЬЕ

# Дударев создает театр Белорусской армии

***На главную роль в премьерный спектакль театра известный драматург пригласил российского актера Станислава Садальского.***

С Садальским Дударев работал в "Белых росах". С тех пор их творческие пути не пересекались. Хотя периодически они встречались в Москве, и несколько раз Дударев был в гостях у известного актера.

Недавно, когда Станислав Садальский выступал в Минске, в столичном Доме офицеров в антрепризном спектакле "Кто последний за любовью?" Алексей Ануфриевич пригласил его снова вместе поработать. Сделано это было публично, перед всем зрительным залом.

После спектакля, который прошел с аншлагом, Станислав Садальский пригласил на сцену Алексея Дударева и режиссера "Белых рос" Игоря Добролюбова. Игорь Николаевич, к сожалению, приболел, и на спектакль прийти не смог. Алексей Дударев под аплодисменты зала приподнес в подарок Садальскому водку "Белые росы" и книгу Игоря Добролюбова о том, как создавался фильм, с автографом и именной подписью мастера. А потом попросил Садальского дать согласие сыграть в театре Белорусской армии, который создается в Минске. Однако Садальский ушел от прямого ответа.

*"В премьерном спектакле, которым будет открываться театр, Садальский не сыграет.* — признался на следующий день драматург. — *А там посмотрим. Может быть, сделаем антрепризу с участием Станислава Садальского".*

По словам Алексея Дударева, новый драматический театр Белорусской армии юридически уже существует. *"Я его художественный руководитель,* — добавляет Алексей Ануфриевич, — *Первый спектакль планируем показать ко Дню освобождения Беларуси от фашистских захватчиков. Какой — военная тайна. Я пока вообще не хочу распространяться на эту тему, потому что театр начинается тогда, когда начинают спрашивать лишние билетики".*


*Станислав Садальский: предложение Дударева — заманчиво...*

Пока не сформирована труппа нового белорусского театра. Но известно, где он будет размещаться. Театру отдан бывший киноконцертный зал столичного Дома офицеров. Сейчас там идет реконструкция, зал и сцена переоборудываются под театральную площадку.

Конечно, если Дудареву удастся получить согласие от Садальского сыграть на белорусской сцене, то "лишние билетики" на спектакль, наверняка, будут спрашивать. 7 Марта на сцене Дома офицеров Станислав Садальский был неотразим, его игра потрясала. Средненький спектакль зрители смогли досмотреть только благодаря игре Садальского. Когда он появлялся на сцене, зал ликовал. А импровизации актера на темы белорусской действительности сопровождались бурными аплодисментами. *"Шура Лукашенко живет со своей красавицей. И мы сможем",* — говорит Садальский своей партнерше по сцене Ларисе Удовиченко. Или *"Я смотрел каталоги. Домик в Дроздах построю"...*

*Алексей Дударев слов на ветер не бросает...*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЗЕРКАЛО

# Минск выборам не верит?

**Кирилл ПОЗНЯК**

Чем ближе выборы в Палату представителей, которые, напомним, должны состояться 17 октября 2004 года, тем больше будет всяких социологических опросов. Ведь интересно хотя приблизительно знать, каким политическим силам намерены отдать свои предпочтения белорусы и верят ли они в то, что выборы будут честными? Кроме того, любое социологическое исследование — это вольный или невольный пиар в отношении избирательских настроений.

На днях были обнародованы данные опроса на тему грядущих парламентских выборов, проведенного социологической службой "Зеркало" информационной компании БелаПАН в декабре прошлого года. Было опрошено 500 минчан в возрасте 18 лет и старше. Согласно этому соцопросу, 42 процента жителей Минска считают, что результаты выборов в парламент Беларуси, которые пройдут осенью 2004 года, будут подтасованы. Причем полностью убеждены в этом 18 процентов, а еще 24 процента респондентов считают, что результаты выборов "скорее будут, чем не будут" подтасованы. Верят в справедливость и прозрачность этой избирательной кампании 29 процентов опрошенных минчан: 14 процентов уверены, что итоги выборов не будут подтасованы, а 15 процентов отметили, что результаты "скорее не будут, чем будут" подтасованы. И 29 процентов респондентов затруднились высказать свое мнение насчет того, будут или не будут сфальсифицированы выборы в Палату представителей.

42 процента столичных жителей, ожидающих подтасовки результатов парламентских выборов, — это достаточно тревожная статистика для белорусских властей. Такую степень недоверия можно считать достаточно высокой. Кроме того, это означает, что масса минчан в оценке выборов солидарна с оппозицией. А она, как известно, уже сейчас заявляет о том, что выборы в Палату представителей осенью 2004 года, скорее всего, будут несправедливыми и нечестными. С одной стороны, это оценка состояния демократии в Беларуси: власти пока не соглашаются на изменения в Избирательном кодексе с целью его демократизации, кроме того, оппозиция предполагает, что будет задействован тотальный административный ресурс. А, с другой стороны, это можно назвать оправданием вероятного провала на выборах.

Надо отметить, что 45 процентов минчан еще не определились, за кого голосовать на выборах в Палату представителей. То есть с очень большой частью электората и оппозиции властям еще можно и нужно "работать".

А вот что касается гипотетической отмены конституционного ограничения на пребывание одного лица на посту президента Беларуси — не более двух сроков, то по этому вопросу жители столицы определились куда решительней. 53 процента минчан против третьего президентского срока для одного из соотечественников. За — всего лишь 13 процентов. 20 процентам минчан это абсолютно безразлично, а 14 процентов еще не определились со своим отношением к такому гипотетическому изменению Основного закона.

Впрочем, оппозиции рано радоваться. Отмечается тенденция к сокращению числа тех, кто категорически против продления президентских полномочий Александра Лукашенко. Согласно прошлогоднему мартовскому опросу социологической службы "Зеркало" информационной компании БелаПАН, против третьего срока выступал 61 процент минчан, а за — 11 процентов. Кроме того, не следует забывать, что голосовать на возможном референдуме по этому вопросу будет не один Минск, а вся Беларусь, которая в целом куда менее "оппозиционна", чем столица.

*("Белорусские новости".)*

СКАНДАЛ

## Убийца служил в... милиции

Криминальная история убийства с последующим расчленением тела жертвы (об этом "Народная воля" сообщала в предыдущих номерах) грозит перерасти в грандиозный "разбор полетов" в милицейском ведомстве.

Личность убитого установили практически одновременно с задержанием подозреваемого в этом жутком злодеянии. Преступление можно считать раскрытым, но вряд ли столичные сыщики испытывают удовлетворение от проделанной работы.

В милицию с заявлением о пропаже сына обратилась тяжело больная пожилая женщина. Она пояснила, что нигде не работающий 33-летний сын жил с ней, а свою квартиру сдавал. Туда и отправились с проверкой оперативники. Голову и руки минчанина они нашли на балконе. Подозрение в убийстве пало на квартиранта, который оказался сотрудником милиции. 22-летний следователь Управления внутренних дел на транспорте не счел нужным отпираться и признался в содеянном.

По предварительной информации, мотивом убийства стало желание офицера завладеть чужой квартирой. В последних числах февраля хозяин пришел за деньгами, но вместо них получил от жильца удар утюгом по голове. Затем убийца разобрал свою жертву, что называется, на части. Говорят, когда у молодого следователя спросили: не страшно ли ему было кромсать труп, то он ответил, что после двух стаканов водки особого страха не испытывал. В день задержания лейтенант занимался переоформлением квартиры на себя.

Во время обыска в квартире нашли не только останки хозяина, но и несколько папок с милицейскими документами, к которым следователь УВДТ не имел никакого отношения. Как они к нему попали, выяснит служебное расследование.

Очевидно, что после первоначальных следственных действий задержанного офицера направят на психиатрическую экспертизу, от выводов которой зависит его дальнейшая судьба.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

АКЦЫЯ

# У народ!

*Днямі ля прахадной аднаго з найбуйнейшых і, згодна з дзяржаўнай прапагандай, найквітнеючых прадпрыемстваў Беларусі — Мінскага аўтамабільнага завода актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі на чале са старшынёй партыі **Анатолем ЛЯБЕДЗЬКАМ** і старшынёй мінскай гарадской арганізацыі АГП **Яўгенам ЛАБАНОВІЧАМ** правялі акцыю па раздачы інфармацыйных матэрыялаў **"5+"**. Акцыя праходзіла, як паведамілі яе арганізатары, у фармаце кампаніі "Народная кааліцыя **"5+"** ідзе ў народ".*

Міліцыя з аўтаматамі, а таксама хлопцы ў штацкім выраслі быццам з-пад зямлі. Яны з'явіліся як толькі пачалі раздаваць матэрыялы. Калі было распаўсюджана каля дзвюх тысяч улётак, амаль усе актывісты акцыі былі затрыманы. Але потым міліцыя ўсіх нечакана адпусціла, толькі Святлана Каралёва на сваім уласным аўто накіравалася ў Заводскі РАУС, дзе на яе быў складзены пратакол за "распаўсюджванне друкаванай прадукцыі".

Прадстаўнікі кааліцыі "5+" з'явіліся ля прахадной аўтазавода якраз у той час, калі рабочыя першай змены пачалі пакідаць прадпрыемства, а таму праблем з жадаючымі нешта ведаць пра народную кааліцыю не было — улёткі разыходзіліся махам.

Ля прахадной узнікалі цікавыя размовы. Вось адна з іх, запісаная на дыктафон, паміж актывісткай АГП і рабочай:

**— Як Вы лічыце, ці трэба нешта ў жыцці мяняць?**

— Трэба...

**— А вось некаторыя лічаць, што ўсё нармальна, кажуць, што рабочыя падтрымліваюць Лукашэнку...**

— Падтрымліваюць? Як бы не так! Мяняць трэба ўладу.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА** наступным чынам пракаменціраваў "Народнай волі" свой першы паход да прахадной МАЗа:

— Мы вырашылі наладзіць раздачу інфармацыйных матэрыялаў і проста пагутарыць з рабочымі — гэта не супярэчыць існуючаму заканадаўству. Я атрымаў вельмі пазітыўны вопыт і ўбачыў, што ў людзей існуе вялікая прага на інфармацыю. У выніку жывой камунікацыі чэрпаеш веды і пра тое, што зараз хвалюе людзей.

Па-другое, як паказалі размовы з работнікамі аднаго з самых паспяховых у Беларусі прадпрыемстваў, жыццё ў іх не такое салодкае, як пішуць у дзяржаўных газетах і гавораць на Беларускім тэлебачанні. Людзі чакаюць перамен, гэта відавочна! Нам трэба даводзіць інфармацыю пра **"5+"** да насельніцтва, — каб яны не атрымлівалі яе выключна з праграмы "Пастскрыптум" Беларускага тэлебачання.

**— Старшыня партыі і надалей будзе сам распаўсюджваць улёткі?**

— Я не думаю, што я буду заўсёды гэтым займацца, проста ў мяне такі прынцып: перш чым нешта прапанаваць актывістам партыі, я сам павінен у гэтым паўдзельнічаць — так было і пры арганізацыі "ланцужка неабыякавых людзей", гэтаксама адбываецца і зараз.

**— Вас не здзівіла, што міліцыя спачатку затрымала ўдзельнікаў акцыі, але потым, прама на месцы, адпусціла не складаючы пратаколаў?**

— З пункту гледжання права і існуючага заканадаўства для затрымання наогул не было нагоды. І тое, што міліцыя ўсіх адпусціла, я не думаю, што гэта падарунак тым жанчынам, якія былі сярод нас. Гэта хутчэй за ўсё было адэкватнае ўспрыманне сітуацыі. Шмат чаго, у рэшце рэшт, залежыць ад кіраўніка аперацыі па затрыманні. Вельмі заўзятыя міліцыянеры прымаюць рашэнне затрымліваць, і многія з іх зорачкі атрымліваюць за поспехі ў барацьбе з тымі людзьмі, хто не хоча глядзець на свет вачыма Аляксанда Лукашэнкі. У дадзеным выпадку міліцыянеры паступілі амаль у адпаведнасці з законам — нагадаю, што была затрымана Святлана Каралёва, у адносінах да яе быў складзены пратакол.

Не абышлося падчас раздачы ўлётак каля прахадной МАЗа і без забаўных сітуацый:

— **Вазьміце праграму** (маючы на ўвазе праграму **"5+"**. — **А.С.**)... — прапаноўвалі партыйныя актывісты.

— На тыдзень? — перапытаў нейкі працоўны, думаючы пра зусім іншую праграму. Тэлевізійную.

**Алесь СІЛІЧ.**

## Самалёт «Боінг 737-500» Нацыянальнай авіякампаніі «Белавія» ўпершыню ажыццявіў палёт па маршруце Мінск — Варшава — Мінск



Самалёт "Боінг 737-500" Нацыянальнай авіякампаніі "Белавія" ў панядзелак упершыню ажыццявіў палёт па маршруце Мінск — Варшава — Мінск. У аэрапорце Варшава-Акэнце адбылася сустрэча кіраўнікоў службаў грамадзянскай авіяцыі Беларусі і Польшчы, кіраўнікоў авіякампаній "Белавія" і "LOT", пасла Беларусі ў Польшчы Паўла Латушкі. Як паведаміў варшаўскаму карэспандэнту БЕЛТА прадстаўнік НАК "Белавія" ў Польшчы Ігар Чаргінец, партнёры выказалі задавальненне новымі магчымасцямі, якія адкрываюць паветраныя зносіны паміж нашымі краінамі.

Паводле слоў Ігара Чаргінца, пачынаючы з лета гэтага года паміж Мінскам і Варшавай будзе лятаць камфартабельны "Боінг". А ў 2007 годзе беларуская авіякампанія плануе поўнасцю перайсці на выкарыстанне самалётаў заходняга ўзору.

**Роберт НАЦКІ, БЕЛТА.**



*Вартаўнік...*

**Фота ByMedia.net**

ПУЛЬС

## «Дружба-1» у Мінску

Архітэктары унітарнага прадпрыемства "Мінскпраект" распрацоўваюць канцэпцыю забудовы жылога раёна "Дружба-1". Яго тэрыторыя — 65 гектараў — размешчана ў паўднёва-заходняй частцы сталіцы. З аднаго боку яна абмежавана Мінскай кальцавой аўтадарогай, з другога — чыгункай.

Як паведаміў БелаПАН галоўны архітэктар праекта Міхаіл Ключановіч, тэрыторыя новага, яшчэ незабудаванага раёна ўмоўна падзелена на тры мікрараёны, дзе плануецца пабудаваць 500 тыс. квадратных метраў жылля. Гэта будуць як элітныя дамы, у тым ліку па індывідуальных праектах (з боку праспекта Дзяржынскага), так і сацыяльнае жыллё (у глыбіні забудовы).

**Лавінія АРЭШКА.**

## Архідны пояс беларускага Палесся

Грамадскае аб'яднанне "Зялёны край" (Брэст) даказала наяўнасць гэтак званага "архіднага пояса" беларускага Палесся працягласцю каля 160 кіламетраў.

Ён пачынаецца з паўднёва-ўсходняй ускраіны Брэсцкага раёна і праходзіць па тэрыторыі Маларыцкага, Кобрынскага, Драгічынскага, Іванаўскага, Пінскага і Столінскага раёнаў.

Навукоўцы і эколагі звярнулі ўвагу на той факт, што расліна Венерын чаравічак, сапраўдны жоўты з сямейства архідэй, узяты пад ахову ў Еўропе яшчэ ў апошняй трэці XIX стагоддзя, мае даволі шырокае распаўсюджванне на Палессі.

**Марат ГАРАВЫ.**

## «Гуляючыя» чэкі?

Амаль палова імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць", выдадзеных жыхарам Брэсцкай вобласці (33,9 з 61,6 мільёна), застаецца на руках у насельніцтва. Людзі не спяшаюцца ўкладваць свае чэкі ў акцыі акцыянерных таварыстваў, спісы якіх ёсць на дошках аб'яў аддзяленняў ААБ "Беларусбанк". Савет міністраў працягнуў тэрмін абароту чэкаў "Маёмасць" да 31 снежня 2004 года.

У апошні час праваахоўнымі органамі Брэсцкай вобласці раскрыта некалькі фактаў махінацый з выкарыстаннем чэкаў "Маёмасць". Так, напрыклад, у Пінскім раёне касір аднаго з банкаў афармляў чэкі на састарэлых вясковых жыхароў і нават грамадзян, якія памерлі, а потым прадаваў іх.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Уваход на канцэрты — свабодны

Учора ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (БДАМ) пачаўся другі Рэспубліканскі фестываль народнаінструментальнага мастацтва, прысвечаны вядомаму беларускаму балалаечніку і дамрысту Георгію Жыхараву (1915—1973).

Фестываль будзе доўжыцца да 17 сакавіка. Уваход на ўсе канцэрты свабодны.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Карціны літоўскай мастачкі наведалі Мінск

**11 сакавіка ў гарадской бібліятэцы № 2 адбудзецца адкрыццё выставы літоўскай мастачкі Бірутэ Куцкайтэ, якая носіць назву "Летающий кот".**

Бірутэ Куцкайтэ пачала маляваць толькі тады, калі яна пераступіла мяжу ў сорак гадоў. Але ж, нягледзячы на гэта, яна з'яўляецца членам Саюза мастакоў Літвы. Нарадзілася мастачка ў Беларусі, а дакладней, у Астраўцы, і жыве ў Вільнюсе. За дваццаць гадоў яна стварыла шмат работ, большасць з якіх знаходзіцца ў прыватных галерэях многіх краін свету.

Гэтая выстава дэманстравалася на радзіме Бірутэ Куцкайтэ ў лютым і пачатку сакавіка. А зараз карціны прыехалі ў Мінск, адкуль потым пераедуць у Смаргонь.

**Наталля ГУСЕВА.**

## Санітар бальніцы забіў пацыента

Санітар Гарадзішчанскай псіханеўралагічнай бальніцы (Брэсцкая вобласць) падчас сваркі так збіў пацыента, што той памёр ад атрыманых траўм.

Як паведамілі ў прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, у Пінскую гарадскую бальніцу 58-гадовы пацярпелы быў дастаўлены вечарам. Медыкі канстатавалі, што пацыенту псіханеўралагічнай бальніцы, які хварэў на эпілепсію, нанесены шматлікія траўмы. Праз некалькі гадзін мужчына памёр.

**БелаПАН.**

ГЛАС НАРОДА

# Совесть их не мучает

Здравствуйте, уважаемая редакция "Народной воли"!

Прочитала статью Виталия Чижовского "Жулики чистой воды в мутных потоках времени" за 23 января 2004 года. Полностью согласна с тем, что самым главным и жестоким мошенником является государство. Сколько раз было обещано о возврате вкладов населению, а результат нулевой. А ведь свои деньги люди отдавали не коммерческим банкам, а сберегательным кассам, которые якобы гарантировали защиту вкладов при любых обстоятельствах.

А кто, как не государство, породило так называемые финансовые пирамиды? Кто их регистрировал? Опять же государственные структуры — райисполкомы. Только им нужны были эти мошеннические организации, чтобы опять обобрать людей до нитки. Кто-либо предупредил людей, что закрыт банковский счет финансовой пирамиды "Техинпром"? Нет. Наоборот, аферистам дали возможность еще целый месяц забирать у людей деньги, а потом тихо-мирно отпустили на все четыре стороны.

Никто не понес наказание, никого не арестовали и, уверена, никого и не искали. Только прокуратура и уполномоченный от президента Виктор Кучинский устраивали показушные спектакли в защиту пострадавших. А ведь эти хитроумные мальчики и девочки, которые в шикарных офисах вешали простым людям лапшу на уши и отбирали деньги, живут в Минске и совесть их не мучает. Кто знает, сколько людей из-за них преждевременно отправились на тот свет, сколько стали инвалидами? И это уже не "мутные потоки времени", а последствия непорядочности государственных чиновников.

**Елена Павловна ПОЛОНСКАЯ.**

*Минск.*

ПРОТЕСТ

# Завод — не вотчина директора,

## или О том, как ущемляют права человека на Гродненском заводе автомобильных агрегатов

Сразу оговорюсь: я уже несколько месяцев не работаю на этом предприятии. Считаю, уволили незаконно. А потому сужусь.

Имею ли моральное право критиковать администрацию завода? Имею. Я знаю ситуацию не со стороны, а изнутри: не один год отдал предприятию.

А во-вторых, сколько можно молчать? Мы — не рабы, они, начальники, — не цари. Для всех одни законы писаны, только вот по-разному к ним относятся.

Под видом борьбы с независимым профсоюзным движением администрация Гродненского завода автомобильных агрегатов во главе с директором Виктором Можджером превратила предприятие в своеобразную модель государства в государстве. Здесь, как я убедился, четко отлажена работа собственных следственных органов, органов дознания и охраны. Как часовой механизм, действует система стукачества. Стукачи, естественно, всячески поощряются. Звание "герой" для них пока не учреждено, но продвижение по карьерной лестнице обеспечивается.

Такова реальность. И рабочим волей-неволей приходится с ней считаться, как приходится считаться и с тем, что на завод, по распоряжению директора, запрещен пронос независимых печатных изданий, в частности, газет "Рабочая солидарность" и ее приложения — бюллетеня "Шабер", "Народная воля", "Солидарность" и ряда других.

Под видом производственной необходимости в цехах и на проходных установлены камеры слежения. Охранники регулярно проводят досмотры вещей и личные досмотры рабочих и служащих, во многих случаях не имея на это ни юридического, ни морального права.

Бывают случаи, когда под угрозой увольнения людей заставляют работать в выходные дни без установленной законодательством дополнительной оплаты. Далеко не всем рабочим нравится издевательство со стороны администрации завода, но большинство пока предпочитает отмалчиваться и наблюдать за происходящим со стороны, так как судьба наиболее совестливых, граждански активных рабочих печальна: за принципиальную позицию многие, как говорится, уже "отстреляны". Кого-то вынудили якобы добровольно покинуть предприятие, кто-то уволен "с треском" по инициативе нанимателя.

Администрация пока преуспевает в процессе превращения людей в послушное стадо. Проведя своеобразную зачистку рядов, завод автомобильных агрегатов акционировали, не получив согласия трудового коллектива. Поверьте, ни собраний, ни конференций с подобной повесткой дня не проводилось. Большинство рабочих и служащих и не подозревает, что приватизационная акция прошла с грубым нарушением трудового законодательства. Мнение коллектива проигнорировано. Можджер показал, кто истинный хозяин на заводе, чего стоят слова о власти народа и т.д.

Оформление приватизации произошло 17 января нынешнего года.

Казалось бы, контролеры из многочисленных комитетов, инспекций, управлений должны взять завод в осаду, здесь для них — непаханое поле. Но контрольные органы без команды "фас", видимо, не работают. Они сохраняют полное безразличие к манипуляциям с законодательством.

Этот удивительный, на первый взгляд, факт становится вполне понятным, если рассмотреть его с разных сторон. Борьба с инакомыслием стала для администрации завода и, как мне кажется, лично для директора Можджера своего рода прикрытием (в народе говорят иначе — "крышей"). Растаптыванием прав граждан они зарабатывают себе индульгенцию в глазах вертикальщиков на отпущение грехов, многочисленных злоупотреблений и нарушений.

В нарушение установленных норм на протяжении двух лет выдача молока производится один раз в неделю вместо положенных ежедневных выдач. В свое время я обратился к директору завода с заявлением по этому поводу, но ответа не получил, как, впрочем, и на многие другие заявления. Видимо, правила работы с обращениями граждан, установленные законодательством, на Виктора Можджера не распространяются.

"Негоже барину держать ответ перед холопом", — примерно в таком духе прокомментировал молчание директора начальник правового отдела предприятия Леонид Березовский. "Ни на одно ваше заявление не будет дано письменного ответа", — заявил мне этот юридический начальник. Ну что ж, понятная и лаконичная формулировка... Придет время, и суд выяснит, насколько она соответствует законодательству.

На заводе автомобильных агрегатов регулярно нарушаются графики выдачи спецодежды и средств индивидуальной защиты. К этому все уже привыкли. Как и к нехватке на рабочих местах ветоши, которую зачастую приходится приносить из дома. Не раз нарушались размеры и сроки выплаты зарплаты, зафиксированные в коллективном договоре.

Грубо нарушаются и права человека, которые приняты мировым сообществом через ООН. Но международные правила и стандарты господину директору — не указ. Но не зря говорят: сколько веревочке ни виться, а конец будет... В нашей стране работает специальная комиссия Международной организации труда (МОТ), которая особое внимание обращает на нарушение прав рабочих администрациями предприятий. Я считаю, что она не пройдет мимо и факта, связанного с моим увольнением.

Ни для кого из членов коллектива не секрет, что на заводе автомобильных агрегатов стали нормой финансовые махинации. Приведу лишь один пример. В сентябре прошлого года, вопреки техпроцессу, заменили краску, что ухудшило качество окраски амортизаторов и удешевило их. Однако потребители получили амортизаторы по обычной цене. Документы, подтверждающие факты замены краски, находятся в суде Ленинского района Гродно.

Скажите: а где же слово профсоюзного комитета? Он мог бы сыграть роль первой скрипки. Но профсоюзный комитет затаился, словно он — в подполье, хотя выражает собственным бездействием солидарность с директором.

Темная история перехода профкома из профсоюза АСМ в "желтую организацию" — профсоюз промышленности до сих пор будоражит трудовой коллектив. Многие рабочие в свое время выразили поддержку профсоюзу АСМ письменно. Большинство и сейчас являются юридически членами профсоюза АСМ, однако у них удерживают взносы, которые поступают в распоряжение профсоюза промышленности, созданного, на мой взгляд, в результате предательского сговора.

Конечно, сейчас любому рабочему стоит спросить: куда деваются его кровные рубли? Почему на них содержится аппарат, не помогающий рабочим?

Лишившись финансовой поддержки, профком промышленности зачахнет, что было бы справедливым с точки зрения рабочего человека. Он самоликвидируется, и на его руинах станет возможным создание подлинно независимого профсоюза, который будет служить интересам рабочего человека, а не заниматься лишь раздачей новогодних подарков детям и организацией увеселительных вечеринок.

Предприятий, подобных Гродненскому заводу автомобильных агрегатов, множество. Ситуация на всех заводах приблизительно одинакова. Поэтому каждый сознательный рабочий должен осмыслить, какие силы и во имя чего манипулируют им? Куда тянут его "желтые профсоюзные конторы"?

**Иван РОМАН,**
**бывший рабочий окрасочного цеха Гродненского завода автомобильных агрегатов, отстаивающий свои права через суд.**

БОЛЬ

# Сможет ли нас понять тот, кто не нюхал пороха...

Уважаемая "Народная воля"!

Не осудите, что побеспокою вас, поделившись своей бедой. Да была б она только моя, наверняка промолчал бы. А то сверлит боль многих уже седовласых, немощных людей, которые когда-то были молодыми — нет, юными участниками страшной войны, а теперь унижены и возмущены отношением к себе со стороны государства.

Прочитал письмо В.Шакутина "За что государство обижает малолетних солдат Великой Отечественной?" и вполне солидарен: таких, кто стал в боевой строй призывниками 1927 года рождения, осталось совсем немного. Узнав о том, что власть имеет намерение отобрать у них ею же определенные, пусть не ахти какие, но все же необходимые при нынешних тяготах льготы, они вряд ли почувствовали прилив сил и энтузиазма.

По правде, волновались мы и раньше, когда только неясные слухи об этом ходили. Еще в 2000 году я обратился к тогдашней ведущей радиопередачи "Разговор по существу" Нине Чайке. И вот какой успокоительный письменный ответ от нее получил: "Вы что-то недопоняли или, простите, недослышали... Ни у кого не может подняться рука на уважаемых ветеранов, никто не наберется смелости обижать хотя бы словами участников Великой Отечественной войны".

Однако — "набрались", однако — "поднялась": уже на ближайшей сессии парламента возможно рассмотрение вопроса, как пересмотреть, а на самом деле отнять мизерные льготы у многих граждан, в том числе и тех, кто с оружием в руках служил Родине. А решать вопрос по существу будут те, кто и понятия не имеет, через что довелось пройти малолеткам — ныне старикам. В ход, скорее всего, пойдут красивые словесные рассуждения о "благе Отечества"...

Мне было 17 лет, когда летом 1944-го вместо книги я вынужден был взять в руки винтовку. После коротких курсов по разминированию новичков-призывников тут же бросили расчищать дороги, поля, населенные пункты от смертоносной начинки. Совсем зеленые, неискушенные в опасном деле юнцы работали не шариковыми ручками. Не успели обрадоваться Победе, как нас в эшелоны — и на восток: война с Японией! Потом нелегкая служба на границе с Финляндией, в "обнимку" с пулеметом Дегтярева и снайперской винтовкой; потом — суровые условия приполярья и заполярья. Семь лет кряду, оторванным от далекого дома, нам не находилось замены, а когда, наконец, пришло долгожданное увольнение в запас, многие мои одногодки уже потеряли здоровье.

Но мы не жалеем о том, что довелось вынести: так распорядилась судьба. Теперь же распоряжаются нами не нюхавшие пороха люди. Смогут ли они понять то, о чем не знают и, может, даже не задумываются? Хотелось бы верить: депутаты в высшем законодательном органе страны все же честно и добросовестно выполнят свой долг, как это делали мы, старшие поколения.

**С уважением —**

**Анатолий Васильевич ТЕЛИЦА,**
**житель деревни Шунивичи Глубокского района.**

**ОТ РЕДАКЦИИ.**

*Письма, подобные полученному от А.Телицы, приходят в редакцию довольно часто: пишут обделенные вниманием ветераны войны, бывшие несовершеннолетние ее участники, дети, прошедшие фашистские и сталинские концлагеря, — словом, люди, которые сейчас не в состоянии существовать без весомой поддержки государства. Всех волнует — не может не волновать, что сулит им принятие новых законодательных актов, которыми, если судить по "артподготовке" в официальных СМИ, вполне возможно, будут урезаны, а то и отменены льготы самым потерпевшим в свое время, а теперь беспомощным гражданам страны. И это — в преддверии 60-летия освобождения Беларуси, на фоне пышной риторики о всяческом уважении, почете, заботе и т.д. о людях, прошедших через ад войны!*

*Может, все же лучше прислушаться к голосу собственного народа и привести в соответствие слова и дела?*

СПОВЕДЗЬ

# Капайце сабе магілу...

Я была на сёмым небе ад шчасця, калі нарадзіўся сынок. Дачушку ўжо мела, а тут Бог паслаў сыночка — памочніка мужу і ўцеху мне. Памятаю, як праразаўся ў яго першы зубок, як пачынаў ён хадзіць. Колькі слёз праліла над яго пасцелькай, калі нападалі хваробы. Ды што я кажу: кожнай маці гэта вядома.

Дзякуй Богу, вырас наш саколік. Скончыў школу, пайшоў у армію. Пасля службы ўладкаваўся працаваць. Незадоўга настаў і той дзень, калі наш Саша прывёў дадому сваю выбранніцу. Мне будучая нявестка спадабалася адразу: ветлівая, уважлівая. А як пажаніліся, то я палюбіла нашу Танечку як сваю дачку. І было за што. Я кожны дзень ездзіла на работу ажно за 25 кіламетраў. Дадому дабіралася позна, стомленая і з адной толькі думкай, каб хутчэй адпачыць. Прыязджаю, а нявестачка мяне ўжо ў дзвярах сустракае:

— Мама, паешце, я толькі што вячэру зварыла.

Як хораша, як цёпла было ў мяне на душы ў той час! І з Сашам яны ладзілі. Толькі вось Бог дзетак не даваў. Ды маладыя ж яшчэ, што тут асабліва перажываць.

А праз год пасля іхняй жаніцьбы здарылася вялікая бяда: наша Танечка захварэла. Ды так моцна, што не дапамагалі, як кажуць, ні дактары, ні знахары. Куды мы толькі яе ні вазілі, дзе ні лячылі — карысці ніякай.

І тут мой сынок павёў сябе не лепшым чынам. Вёска наша невялікая, ад людзей не схаваешся. І вось пачалі мне казаць, што завёў ён сабе каханку. Ды не каго-небудзь, а жонку лепшага сябра. Мы з мужам усяляк угаворвалі сына, прасілі адумацца, пашкадаваць Таню, бо ёй і так цяжка. Не, не паслухаўся...

Ад нявестачкі як маглі хавалі гэтую брыдкую таямніцу. Але ж шыла ў мяшку не ўтоіш. Знайшліся дабрадзеі, якія пра ўсё ёй расказалі. Залілася бедная слязьмі і пачала збіраць свае рэчы. Я так прасіла яе застацца, абяцала, што буду рабіць ўсю хатнюю работу: прыбіраць, варыць есці, мыць бялізну, буду аддаваць ім большую частку сваёй зарплаты. Але ёй нічога было не міла, не магла дараваць такой лютай здрады, калі муж пакінуў яе хворую і бездапаможную дзеля другой — здаровай і дужай.

Паехала наша Танечка жыць да сваёй маці. А неўзабаве сын, акурат перад Міжнародным жаночым днём, прыпаднёс мне падарунак: пасярод ночы прывёў у хату сваю новую выбранніцу. Пабудзіўшы нас з мужам, загадаў:

— Яна будзе тут гаспадыняй! І каб не пярэчылі, а то глядзіце ў мяне!

А на само свята 8 Сакавіка, калі да мяне ў госці прыйшла сястра, мой сын так павіншаваў нас, што сястра ледзь уцякла. А ў мяне ўцякаць не было сілы. Я глядзела на перакошаны злосцю сынаў твар, слухала брыдкія словы, што зляталі з яго вуснаў, і так горка і балюча было на душы, што хоць пайдзі і ўтапіся. Я не пазнавала свайго сына. Гэта было не маё дзіця.

Не хачу абараняць Сашу, але пазней зразумела, што новая жонка настройвае яго супраць нас. Хоць жылі яны ў другім канцы хаты, але нам з мужам месца не стала і на сваёй палавіне. Аднойчы сын так пабіў бацьку, што той атрымаў страсенне мазгоў. Але ён не звяртаўся ні ў бальніцу, ні ў міліцыю. Шкадаваў, што пасадзяць нашага дамарослага дэбашыра ў турму. Можа і дарэмна шкадаваў.

Мой муж — інвалід другой групы. Сын і нявестка без усялякага сораму абзываюць яго, здзекуюцца як толькі могуць.

— Нядоўга ўжо вам засталося жыць на гэтым свеце, — часта казала нявестка. — Я не шкадую грошай, езджу да знахароў, каб вам што-небудзь зрабілася. Так што капайце сабе магілу.

Наш сын слухаў усё гэта і хоць бы слова сказаў у абарону. Маўчыць, бо думае так, як і яна.

Дайшло да таго, што ў нашу хату не могуць зайсці ні дачка з зяцем, якія жывуць непадалёку, ні ўнук. Не тое, што ў будні, але і ў святы.

Разам з новай нявесткай у нашу хату прыйшоў жыць і яе непаўналетні сын. Як кажуць, яблык ад яблыні недалёка падае. Беднае дзіця таксама расце жорсткім і нявыхаваным. Аднойчы, калі мой сын мяне біў, хлопчык і кажа:

— Не адпушчай яе, патрымай, я вазьму кій і выкалю ёй вочы...

Больш за ўсіх ад гэтых скандалаў пакутуе мой муж. Аднойчы нявестка распачала бойку і павырывала ў яго валасы.

У апошні час мае вочы не прасыхаюць ад слёз. Плачу, калі патэлефануе мая мілая добрая Танюша, плачу, калі паб'е сын, абражае і крыўдзіць нявестка. Боль, крыўда і ганьба не даюць мне спакою ні днём ні ноччу. Мы і наш сын з нявесткай сталі тэмай вясковых плётак. Людзі судзяць нас і абгаворваюць. Але што ты зробіш. Трэба цярпець. Але як цярпець? І колькі?

Некаторыя людзі, прачытаўшы маю горкую споведзь, скажуць:

— І на каго ты скардзішся, кабета? На сваё дзіця? Якога сына выхавала, такога і маеш.

Можа яно і так. Можа я штосьці недагледзела, чагосьці не ўклала ў ягоную душу ў дзяцінстве, можа занадта любіла і шкадавала. Але, як і кожная маці, я хацела свайму дзіцяці толькі дабра. Ды і цяпер не жадаю ні сыну, ні ягонай новай жонцы ніякага зла. Няхай жывуць шчасліва, няхай толькі не мучаюць нас.

Дзякуй усім добрым людзям, у каго хапіла цярпення дачытаць да канца маю споведзь. Вось падзялілася з вамі сваёй бядой і неяк лягчэй стала на душы. А можа і дзеці мае, прачытаўшы гэта, штосьці зразумеюць і паіншаму паглядзяць на жыццё, на свае ўчынкі. Дай ім Бог розуму і душэўнага прасвятлення.

**З павагай,**

**Аляксандра Мікалаеўна.**

**Да друку падрыхтавала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Беларусь на парозе эканамічнай вайны з Расіяй?

*Штотыднёвік **"Салідарнасць"** прэзентаваў новую рубрыку "Вынікі месяца". У абмеркаванні ды аналізе галоўных падзей лютага брала ўдзел вядомы паэт і грамадскі дзеяч **Генадзь БУРАЎКІН**, выдавец "Белорусской деловой газеты" **Петр МАРЦЕВ** і рэдактар "Салідарнасці" **Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ**.*

**Марцев:** Называть случившееся газовой войной не совсем верно по одной простой причине. Далее мы увидим, что это еще и нефтяная война, и финансовая, и прочее. То есть говорить надо шире: экономическая война. И если Лукашенко не одумается, через какое-то время она грозит перерасти в политическую войну. Предвестником этого является заявление МИДа России, в котором констатировалось, что наше руководство работает не в интересах белорусского общества, совершает системные ошибки во внутренней и внешней политике. По сути россияне впервые заявили, что не согласны в целом с курсом, избранным Лукашенко.

**Бураўкін:** Выглядае, маскоўскія эксперты пралічылі розныя варыянты развіцця падзей. Баюся, што беларускія ўлады не разглядалі сітуацыю так скрупулёзна. Як паказвае практыка, у расіян часцей за ўсё працуе каманда, а ў нас — камандзір.

Адсюль і вынікі: заява МЗС Расіі была вельмі рэзкай, але ў межах выхаваных людзей, а з нашага боку атрымалася істэрыка ажно да непрыстойнасці. Стылістыка выкарыстоўвалася амаль тая ж, што пры нападзе гітлераўскай Германіі: "На рассвете, когда мирно спалі дети..."

**Старыкевіч:** Наогул цікава атрымліваецца. Шмат гадоў нам даводзілі, што адным з галоўных дасягненняў Аляксандра Лукашэнкі з'яўляецца захаванне міру на беларускай зямлі. І раптам высвятляецца, што вайна (хай сабе "толькі" газавая) ужо ідзе. Шмат гадоў стаўка рабілася выключна на сяброўства з Расіяй. А цяпер выходзіць, што з такімі сябрамі і ворагі не патрэбныя.

Наколькі я ведаю, у кулуарах вядомай рыжскай канферэнцыі была агучана інфармацыя пра канфідэнцыйныя перамовы на вышэйшым узроўні пра лёс Беларусі. Схематычна гэта выглядала так. Крэмль прапанаваў заходнікам: добра, мы прыбіраем Лукашэнку, але пры гэтым далучаем да сябе Беларусь. Тут, праўда, запярэчылі палякі, якія з уласнага гістарычнага досведу ведаюць, што ад агульнай мяжы з Расіяй мала шчасця. Яны палічылі за лепшае мець буферную зону і таму заявілі: не, Беларусь павінна застацца незалежнай, хай сабе і на чале з Лукашэнкам.

*Цалкам з гэтай гутаркай, у якой таксама абмяркоўваліся арышты Галіны Жураўковай і Ягора Рыбакова, акцыі пратэсту прадпрымальнікаў, перамога беларусаў над расіянамі ў Кубку Дэвіса ды іншыя падзеі, вы можаце азнаёміцца, набыўшы чарговы нумар "Салідарнасці", які ўжо патрапіў у кіёскі "Саюздруку". Акрамя таго вы знойдзеце там чарговы выпуск праекту "50 прыгажунь свету" з выбранымі фотаздымкамі пераможцы сёлетняга "Оскара" Шарліз Тэрон; артыкул пра тое, як расійскія спецслужбы перабблыталі Катар з сарцірам і, каб вызваліць сваіх супрацоўнікаў, захапілі ў закладнікі спартсменаў з Беларусі; парады, як выявіць у сваёй кватэры геапатагенныя зоны; агляд замежнай прэсы, крыжаванку, гараскоп і шмат чаго яшчэ.*

# Старому мосту неабходна рэанімацыя

***Капітальна абноўленым сустрэне свой "залаты" юбілей Кіраўскі мост Віцебска — самая запатрабаваная рачная пераправа ў горадзе на Заходняй Дзвіне.***

Мост звязвае берагі буйнейшай ракі беларускай поўначы ў напрамку ад чыгуначнага вакзала да дзелавога цэнтра Віцебска і служыць паветраным працягам прывакзальнай вуліцы Кірава да яе злучэння з плошчай Тысячагоддзя і вуліцай Замкавай, а таму зусім лагічна мог бы называцца Замкавым, а не Кіраўскім, бо замак тут быў, а кіруючы бальшавік Сяргей Кіраў ніколі Віцебск не наведваў і наогул ніяк не звязаны з гэтым горадам. Але ў 1934 годзе імем забітага Кірава было загадана называць усё запар: параходы, заводы, вуліцы і калгасы.

Сёлета мясцовыя ўлады вырашылі распачаць рэканструкцыю моста, пабудаванага ў 1955 годзе. З таго часу мост даўжынёй у 236 метраў шматразова акупіў выдаткаваныя на яго ўзвядзенне грошы, але і выпрацаваў свой эксплуатацыйны рэсурс да такой ступені, што далейшае выкарыстанне гэтай пераправы стала небяспечным, аб чым пасажырам перапоўненых аўтобусаў і тралейбусаў, што пастаянна снуюць па мосце, нагадвае моцнае дрыжэнне зношаных элементаў яго праезнай часткі.

Кіраўніцтва горада разумее, якія нязручнасці грамадзянам створыць перапынак у эксплуатацыі моста, неабходны для рэканструкцыі, але разумее і тое, што лепш пажыць пэўны час без моста, чым дачакацца катастрофы з чалавечымі ахвярамі.

Гісторыя цэнтральнага віцебскага моста пачалася ў пазамінулым стагоддзі. Мост, які звязаў Вакзальную і Замкавую вуліцы, быў пабудаваны на месцы драўлянага ў 1863—1867 гадах і прастаяў аж да Вялікай Айчыннай вайны, у час якой быў разбураны.

Цяперашні мост узвялі крыху менш за паўстагоддзе таму мінскія архітэктары і будаўнікі.

Падрыхтоўка да рэканструкцыі Кіраўскага моста ўжо ідзе. Афармляецца патрэбная праектна-каштарысная дакументацыя, намячаюцца часовыя аб'язныя шляхі на транспартных маршрутах, што здаўна праходзілі па мосце. Неўзабаве гарвыканкам аб'явіць тэндэр для падрадных мостабудаўнічых арганізацый. Жадаючых браць удзел у абнаўленні моста будзе шмат, бо падрад гэты выгадны, дарагі: на яго будзе выдаткавана каля дзевяці мільярдаў рублёў — 1,5 мільярда з так званага рэзервовага фонду прэзідэнта Беларусі, астатнія грошы — з мясцовага бюджэту і ад розных дзяржаўных прадпрыемстваў, прыватных банкаў і вытворчых фірм.

Задача будаўнікоў ускладняецца тым, што тэрмін рэканструкцыі моста павінен быць карацейшым за нарматыўны для такога аб'ёму работ: замест першапачатковa намечаных 22-х месяцаў на выкананне падраду адводзіцца роўна год. Зроблена гэтая папраўка дзеля таго, каб закрыць мост на рэканструкцыю не напярэдадні сёлетняга "Славянскага базару", а пасля адкрыцця фестывалю.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Сустрэліся муж, жонка і... кілер

Адзін з найбольш цяжкіх крымінальных працэсаў у хуткім часе павінен завяршыцца ў Мінскім гарадскім судзе. Там разглядаецца крымінальная справа, узбуджаная ў дачыненні да мужчыны, які наняў для забойства ўласнай жонкі кілера.

Як стала вядома БелаПАН, забойца перадумаў выконваць пажаданне заказчыка і расказаў аб сітуацыі сваёй патэнцыяльнай ахвяры. У адзін з дзён адбылася сустрэча мужа, жонкі і кілера. У працэсе разборак кілер выстраліў у галаву сямейства, перабіўшы яму куляй пазваночнік. Цяпер мужчына, які абвінавачваецца ў спробе арганізацыі заказнога забойства, з'яўляецца на судовыя пасяджэнні ў інвалідной калясцы.

Як паведамілі ў Мінгарсудзе, слуханне справы цягнецца амаль паўгода, і хочацца спадзявацца, што прысуд у дачыненні да арганізатара забойства, якое не адбылося, будзе абвешчаны ў хуткім часе.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

*Яраслаў ЧАПЛЯ*

# Сацыялістычны кацёл

*(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)*

А зараз пачытайце гэтае страшнае сведчанне: "Заява. У нас у Варатоўскім сельсавеце (Смалявіцкі раён. — **Я.Ч.**) праходзіць калектывізацыя. Нашага бацьку Ганчарыка Сяргея, як заможніка і кулака, у калгас не прымуць і нават выселяць з межаў сельсавета. Мы пойдзем па шляху, па якім нам дыктуе Савецкая ўласць і ад свайго бацькі як ад кулака адмаўляемся. Мы ўсе жадаем уступіць у калгас і ўнесці ўсю маёмасць, а таксама парваць усялякую сувязь з бацькам".

Уяўляю, як з'явілася гэтая заява на стале старшыні райвыканкама.

Жыла вялікая, дружная сям'я. Шчыравалі на полі з раніцы да вечара, каб можна было разлічыцца з дзяржавай, прадаць што — трэба ж дзяўчатам адкладваць на пасаг хоць па рубельчыку, сабе пакінуць збожжа да новага ўраджаю. З суседзямі жылі ў згодзе, дапамагалі адны другім касіць, сенаваць, жаць, капаць бульбу. Багацця не мелі, але хлеб не пазычалі. Ці не таму, як выйшла каманда арганізоўваць у вёсцы калгас, прыйшлі ў хату некалькі сельсаветчыкаў і камсамольцаў і сказалі: усё, Ганчарык, твая песенька, як кулака, спета. Цябе выселім з сельсавета, а дабро тваё ў калгас забяром. Спярша падумалі — палохаюць, а потым разгледзеліся — не, так і будзе, як сказалі. То з аднае вёскі, то з другой ужо дайшлі чуткі пра раскулачванне. І тады сабраў Сяргей Ганчарык усю сваю сям'ю і сказаў словы, ад якіх у самога перахапіла дыханне, а сыны і дочкі ажно скамянелі: "Мы з маткаю ўжо пражылі век: хай з намі робяць, што хочуць, калі няма на іх Бога. Але нельга дапусціць, каб і вы пакутавалі. Во папера. Пішыце заяву, што ад мяне адракаецеся. Тады, можа, хоць вас чапаць не будуць". Спярша бацькава прапанова дзецьмі была адвергнута: "Тата, што вы гаворыце, хай і нас высылаюць разам з вамі, але як мы можам ад вас адрачыся? Нас жа Бог пакарае, на нас праклён вісець да скону дзён нашых будзе". Але пасядзелі, памеркавалі і вырашылі: калі паперка хоць некага з сям'і выратуе — то няхай яна будзе. Трэба ж неяк выжыць...

А можа, усё было неяк інакш. Ды калі нават дапусціць (хаця асабіста мне ў гэта ніяк не верыцца), што тая заява была напісана абсалютна шчыра, усё роўна яна — сведчанне трагедыі, якая адбылася ў сям'і Ганчарыкаў. Сям'я ж іх у напісанні такіх заяў не была адзінай... І трагедыя гэтая ўзмацняецца рэзалюцыяй на заяве, якую наклаў старшыня райвыканкама: "Ворагі народа імкнуцца змяніць сваё аблічча, замаскіраваць свой кулацкі твар, але пад авечай скурай воўчых іклаў не схаваеш".

І ўсё ж знаходзіліся сярод членаў партыі, якія адказвалі за калектывізацыю на месцах, разумныя людзі, якія рэальна ацэньвалі становішча ў вёсцы заможных сялян. Ды гэтыя партыйцы тут жа абвінавачваліся, як і Прышчэпаў, у "правым ухіле", і далейшы іх лёс, як можна здагадвацца, быў незайздросным.

Вось што пісала "Звязда" ў канцы 1929 года ў артыкуле пад красамоўным загалоўкам "Тэарэтык" супрацоўніцтва з класавым ворагам": "У Мсціслаўскім раёне частка камуністаў-калгаснікаў і камунараў прыхільна адносілася да кулакоў-індывідуальнікаў, імкнучыся "тэарэтычна" абгрунтаваць свае погляды аб карыснасці супрацоўніцтва з класавым ворагам, аб саюзе з "блізкімі" кулакамі.

Так, сакратар партячэйкі Віхронскай камуны ў адказ на пратэсты рэшткі партыйцаў, якія выступалі супраць прыёму кулакоў у камуну, заявіў:

— Кулакі бываюць розныя — блізкія нам, карысныя, і варожыя і шкодныя. Блізкіх кулакоў можна ў калгасы прымаць".

У адным аўтар артыкула, які схаваўся за крыптанімам "А.М." (ведаў, што ідзе на здзелку з сумленнем?), меў рацыю: сакратар партячэйкі сапраўды аказаўся слабым тэарэтыкам. Ды ён, у адрозненне ад А.М., не ілгаў ні сабе, ні людзям, ён цудоўна бачыў, што крыніца заможнасці часткі сялян — у іх працавітасці, што для аднавяскоўцаў яны з'яўляюцца паважанымі людзьмі, а не "ворагамі народа".

Сакратар Тураўскага райкама партыі Лісіменка быў чалавекам больш адукаваным, таму і разважанні яго больш аргументаваныя: "Нельга ўсіх кулакоў і індывідуалаў аб'яднаць у адно цэлае. Не ўсе ж кулакі з'яўляюцца антысавецкімі элементамі. Хіба ж няма сярод індывідуалаў і кулакоў такіх людзей, якія падтрымліваюць усе мерапрыемствы Савецкай улады і не выступаюць супраць калектывізацыі. Лічыць усіх тых хто абкладзены ў індывідуальным парадку, варожымі элементамі нельга. Гэта няправільна".

У адказ на гэтыя мудрыя разважанні "Звязда" рэзнула: "Ясна, што такая "тэорыя" аб "карыснасці" кулакоў з'яўляецца замаскіраваным капітулянцтвам перад класавым ворагам, агітацыяй за "мірнае ўрастанне кулака ў сацыялізм", з'яўляецца скрытай стаўкай на кулака, адкрытай прапагандай за супрацоўніцтва з класавым ворагам.

**Трэба неадкладна аздаравіць кіраўніцтва арганізацый** *(падкрэслена ў тэксце. —* **Я.Ч.**) і жорстка ўдарыць па тых, хто даводзіць нямэтазгоднасць калектывізацыі, хто бярэ стаўку на кулака".

*У калгас. Гэтак назваў свой дрэварыт мастак С.Юдовін. 1940 год.*

## Плюс 6 працэнтаў мёртвых душ

Усе гады існавання Савецкай улады парушэнні законнасці пры калектывізацыі (быццам прымусовая калектывізацыя сама па сабе не была грубейшым парушэннем законаў) у нас тлумачыліся "памылкамі" мясцовых улад. Хто зараз верыць гэтай байцы! Злоўжыванні ў адносінах да сялян былі запраграміраваныя "наверсе", "унізе" ж аддавалася толькі рэха прынятых там пастаноў і цыркуляраў. Вось вытрымка з рэзалюцыі пленума ЦК КП(б): "...Пры правядзенні суцэльнай калектывізацыі высяляць усе кулацкія гаспадаркі за іх кошт з тэрыторыі калгасаў на горшыя па якасці землі". Хто, скажыце, пасля гэтых слоў будзе цырымоніцца з тымі кулакамі, хто будзе разбірацца, ці сваім мазалём нажыў ён сваё дабро, хто пашкадуе малых дзяцей, якіх выкідаюць на мароз без цёплай адзежы?

Нават сваімі грашыма ў ашчадных касах раскулачаныя карыстацца не маглі, бо быў накладзены арышт на ўклады ўсіх кулакоў, абкладзеных у індывідуальным парадку сельгаспадаткам.

Як бачым, не хто іншы, а менавіта ўрад БССР распарадзіўся пакінуць заможных сялян без сродкаў да існавання — калгасныя актывісты абіралі іх да ніткі са свайго боку, дзяржава — са свайго.

Да знішчэння кулака як класа імкнуліся прыкласці руку ўсе. Здавалася б, Дзяржстрах — як ужо ён мог прыцiснуць абкладзенага з усіх бакоў, бы ваўка, "кулацкага элемента"? Аказалася, мог. Старшыня праўлення Дзяржстраха БССР паслаў на месцы такі ліст: "Па маёй думцы, выдача страхоўкі кулакам павінна быць спынена па ўсёй БССР, незалежна ад ступені калектывізацыі таго ці іншага раёна, паколькі кулак ніколі не будзе зацікаўлены ў аднаўленні знішчанай маёмасці на атрыманыя ім ад Дзяржстраха грошы".

Удумайцеся толькі ў гэтыя блюзнерскія словы: "ніколі не будзе зацікаўлены ў аднаўленні знішчанай маёмасці...". Маўляў, паколькі гэтым кулакам не сёння дык заўтра усё роўна капут, дык навошта ім грошы?

А ўвогуле, цікава, ці былі хоць нейкія афіцыйна ўстаноўленыя крытэрыі прылічэння сялян да той ці іншай сацыяльнай групы — кулакоў, серадянкоў, беднякоў? У адным дакуменце я знайшоў такую градацыю: калі сям'я мела да 2 дзесяцін зямлі — яна лічылася беднаю, калі ад 2 да 6 — серадняцкаю, больш за 6 — ужо кулацкая. А калі з 6 дзесяцін корміцца дзесяць душ, а з 2 — дзве? Пры пяці дзесяцінах можна трымаць адну карову, а можна — тры. І гэтак далей. Каго лічыць кулаком, ворагам рэвалюцыйнага народа? І за што лічыць? Адказаў на гэтыя пытанні я не знайшоў. Баюся, што на іх у кожным павеце, у кожным сельсавеце адказвалі па-свойму — як было выгадна.

А каб сяляне гэтыя адказы разумелі "правільна", на ўсю моц стараўся народны камісарыят унутраных спраў, які ўжо тады набіваў руку ў выкрыцці "пятай калоны". Народны камісар унутраных спраў Ляплеўскі загадваў: "Галосным работнікам органаў старанна праінструктаваць усю сельскую агентурна-паведамляльную сетку і рэзідэнтаў аб узмацненні выяўлення кулацкіх і іншых контррэвалюцыйных элементаў у калгасах, саўгасах і сярод аднаасобнікаў.

У пунктах, паражоных актыўнай контррэвалюцыйнай дзейнасцю ворага (тэрарыстычныя акты, шкодніцтва, крадзеж), а таксама ў калгасах, засмечаных кулакамі, — правесці новыя вярбоўкі паведамляльнікаў і агентуры, вярбуючы правераных, адданых Савецкай уладзе людзей, у першую чаргу калгаснікаў-ударнікаў, трактарысцкую і калгасную моладзь".

Можна не сумнявацца, што пасля такой руплівай работы НКУС і яго памочнікаў усялякай "контры" ў беларускай вёсцы адразу пабольшала, і адразу, зноў дзякуючы НКУС, яна надоўга, калі не назаўсёды, са сваіх паселішчаў знікла.

Барацьба з кулацкай ідэалогіяй з хутароў перакінулася і ў літаратуру. Паэт А.Дзяркач, у прыватнасці, напісаў паэму "Міколава гаспадарка". Чытаеш яе — так і бачыш руплівую Міколу, які з радасцю завіхаецца ў сваёй гаспадарцы. У ёй

*конь, кабыла, жарабок —*
*лялькі, а не коні.*
*Пяць кароў, як на ўбой,*
*Згадваў Мікола.*

А паколькі аўтар ведае, што Мікола ўсяго дамогся сваім мазалём, без усялякіх там парабкаў, то і робіць выснову:

*Не, Мікола не кулак,*
*Ён найболей серадняк.*

А.Дзяркач бачыць высокую эфектыўнасць Міколавай гаспадаркі і не можа пра гэта не сказаць:

*У падзяку з году ў год,*
*І што больш ад году*
*Павышаецца даход*
*І ўсё менш расходу.*

У выдавецтва, якое выдала паэму асобнай кніжкай, у рэспубліканскія газеты пасыпаліся пісьмы палітычна пільных аматараў паэзіі. Не, мастацкія вартасці паэмы яны не ставілі пад сумненне (хаця, відаць, дарма), яны знайшлі ў ёй палітычны падтэкст. "Паэма з літаратурнага боку — мастацкі твор, але з палітычнага боку адцягвае нас ад генеральнай лініі партыі", — гэта адзін з лістоў, які прыйшоў у рэдакцыю "Чырвонай змены". У выніку ўсе экземпляры кніжкі знялі з продажу і знішчылі.

Гэтак жа, адным махам, у вёсцы імкнуліся знішчыць "перажыткі мінулага". Газеты стракацелі радаснымі паведамленнямі. Па тэмпах калектывізацыі сельсавет імкнуўся абагнаць суседні сельсавет, адзін раён — другі, акруга (абласцей тады яшчэ не было) — акругу. Асабліва шмат ура-гвалту было ў канцы 29-га — першым квартале 30-га гадоў.

"У Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай акругі арганізаваўся самы буйны калгас у БССР на плошчы 25 тысяч гектараў. У калгас увайшло 2136 гаспадарак".

"У Сенненскім раёне (Віцебшчына) калектывізацыя сельскай гаспадаркі развіваецца нечуванымі тэмпамі. Лік калгасаў расце з кожным днём. Толькі гэтымі днямі арганізаваўся калгас на 15.000 гектараў, не гаворачы аб больш дробных калгасах на 200—300 гектараў".

"Скончана суцэльная калектывізацыя Клімавіцкага раёна. Дзень сканчэння калектывізацыі абвешчаны днём шокавай праверкі і ўзмацнення калгасаў".

"Буйнейшы ў БССР калгас "Бальшавік Беларусі" імя ЦК КП(б)Б займае плошчу 30.000 гектараў і аб'ядноўвае 52 вёскі. Ганаровым старшынёй гэтага калгаса абраны Генеральны сакратар ЦК УКП(б) т.Сталін".

"Пленум Мазырскага акруговага камітэта КП(б)Б выклікаў на сацыялістычнае спаборніцтва па калектывізацыі Менскую акруговую партыйную арганізацыю. Умова — да восені 1931 года Менская акруга павінна быць ахоплена суцэльнай калектывізацыяй".

Спынімся, бо чым больш чытаеш гэтыя радкі, тым больш ствараецца ўражанне, што праглядаеш раман абсурду, настолькі нерэальным і алагічным здаецца ўсё гэта. Бо на самай справе не могуць жа разумныя, адукаваныя людзі ўсур'ёз планаваць на працягу года зламаць, перамалоць, перайначыць тое, што складвалася, прыціралася адно да аднаго стагоддзямі, і жадаць мець ад гэтага пакуль міфічнага новага і хлеб, і мяса для ўсёй краіны!

А пакуль кіраўнікі, партыйныя і савецкія, вызначалі тэрміны канчатковага пераводу сельскай гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі, у вёсках ад гэтых рэек многія адхрышчваліся як маглі. Дакументальна засведчаны, напрыклад, факт, калі сельскія камсамольцы на сваіх сходах выступалі і заяўлялі: мы не ворагі сваім бацькам, каб агітаваць іх уступіць у калгас. "Звязда" ў сваю чаргу расказвала, у якой маральнай абстаноўцы вялося аграмаджэнне гаспадарак у камуну "Прамень сацыялізму" Самахвалавіцкага раёна: "Сярод камунараў маюць месца ўласніцкія, песімістычныя настроі. Асобныя камуністы плятуцца ў хвасце адсталых настрояў, спаўзаюць на пазіцыі апартунізму і дзяляцтва.

Кіраўніцтва камуны не адгукнулася на правядзенне хлебанарыхтовак. Старшыня савета камуны т. Мініч, член раённага камітэта партыі, у часе хлебанарыхтовак заявіў: "Хлеб кааперацыі здаваць не будзем, бо калі здамо, то вясной самі будзем сядзець без хлеба"".

У гэты час у Беларусі рэзка скарацілася пагалоўе жывёлы. Прычына гэтага простая: сяляне не хацелі аддаваць сваю жывёлу ў калгасы, яны імкнуліся ці прадаць яе, ці зарэзаць і спажыць мяса самім. Але лепш за Івана Мележа пра гэта не раскажаш.

"Незвычайнае рабілася з людзьмі: яшчэ нядаўна ашчадныя, беражлівыя, яны цяпер не надта дрыжэлі над набыткам сваім: штоночы ў розных кутках з хлявоў выбіваўся перадсмяротны віск і мэканне. У паветра цяпер больш, чым калі-небудзь, узнімаўся пах смажанага, пах сытага жыцця. І рэзалі, і смажылі ўпотай, хаваючы ад суседзяў, а тым больш ад начальства...

У тых адважных гаворках, што прарываліся між адчайных захмялелых сваякоў і сяброў, мужна раілі адзін аднаму: "Пусціць трэба ўсё!..", "Пажывіцца хоць раз — перад калекцівам!", "Казна багатая — дасць усё сваё. З горада прывязуць".

Як бы там ні было, дзень за днём меншала і меншала ў Куранях авечак, свіней, цялят.

Як не смяяцца было вясёламу Хоні, калі бачыў смешную баязлівасць, бачыў, на якія хітрыкі ідуць, каб ашукаць некага. Як калолі, рэзалі, і смажылі, і елі столькі, што жываты трашчалі. Каб маглі, дык і хамуты і колы пераганялі б, напэўна, на гарэлку ці смажылі. Пацеха, дый годзе!"

Але ці да смеху было б мележаўскаму веселуну Хоні, калі б ён ведаў, што ў Беларусі толькі на пачатку 30-га года коней паменшала на 74 тысячы галоў, буйной рагатай жывёлы — на 348 тысяч, свіней — на 361 тысячу.

Хаця як не зразумець сялян, якім улада абяцала пры калгасным жыцці малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, але адначасова з абяцаннямі абірала да ніткі. Ды яшчэ і хвалілася гэтым. Вось толькі адзін рапарт: "На плошчы 5000 гектараў няма ніводнага неабагульненага каня, каровы, свінні". Пры ўступленні ў калгас у 1929 годзе і на пачатку 1930-га сяляне павінны былі звозіць туды ўсё насеннае збожжа, усю вупраж. Шмат дзе курэй — і тых збіралі ў адзін хлеў. А з тымі вяскоўцамі, хто не паддаваўся таму дурному парадку, не цырымоніліся: у іх дабро адбіралі сілай, а самых упартых саджалі ў турмы.

У правядзенні калектывізацыі найбольш вызначыўся Гарадоцкі раён. У сваім імкненні быць самымі "калектыўнымі" гарадоцкія начальнікі зусім згубілі пачуццё рэальнасці. Бо чым іншым можна растлумачыць іх рапарт аб 106-працэнтнай калектывізацыі! Уяўляеце — аказваецца, можна загнаць у калгасы людзей больш, чым іх ёсць на самай справе. Во дзе р-рэвалюцыйны націск на аднаасобніцкую псіхалогію!

Члены райвыканкама, якія адказвалі за суцэльную калектывізацыю ў вёсках, мелі два спісы — чырвоны і чорны. Таго, хто не хацеў ісці ў калгас, уносілі ў чорны спіс і абяцалі саслаць на Калыму, Салаўкі, у Мурманск і нават на... Месяц. А каб яны да Калымы прывыкалі ўжо зараз, ім аб'яўлялі эканамічную блакаду. Гэта азначала, што ў магазінах спажывецкай кааперацыі ім нічога не прадавалі.

Але і такога націску для стварэння байкі пра "паказальны" раён райкаму і райвыканкаму здавалася недастаткова, таму вырашылі заняцца прыпіскамі — спосабам, вельмі добрым ва ўмовах народнай дзяржавы. "Народ" — паняцце такое шырокае, што прыпіскамі нікога канкрэтна ў зман быццам бы і не ўводзіш. Так у калгасе "Будзённы" аказаліся калектывізаванымі ўсе сялянскія гаспадаркі, хаця 80 з іх заяў на ўступленне ў калгас увогуле не падавалі. Быццам бы "аграмаджанымі" лічылася 2678 коней. А ў судзе знаходзіліся дзесяткі актаў аб прыцягненні да адказнасці тых, хто не ішоў у калгас. За такое імкненне да сацыялізму Гарадоцкі раён спецыяльнай пастановай урада быў аб'яўлены "паказальным" па калектывізацыі, і ў ім была арганізавана трактарная калона на 1 мільён рублёў. Так што, як бачыце, для "народа" стараліся кіраўнікі Гарадоцкага раёна, не для сябе.

*(Працяг будзе.)*

ПРЕМЬЕРА

## «Белый голубь» затронет душу

*10 марта в столичном Молодежном театре эстрады пройдет премьера нового вокально-хореографического проекта «Белый голубь».*

Спектакль не назовешь обычным, так как точно определить его жанр — непросто: тут есть и вокальный, и хореографический и театральный жанры. Можно, конечно, назвать его мюзиклом, но и это не будет точно определять то, что происходит на сцене.

В качестве эпиграфа к спектаклю взяты слова М.Ранбека "Счастье — это не станция назначения, а способ путешествия". И они достаточно точно отображают суть "Белого голубя" — трогательный, смешной и грустный одновременно, но — со счастливым концом.

Борьба добра и зла, происходящая на фоне любви, — вот основная тема спектакля. Главные герои — ангел и искуситель — спорят: а есть ли любовь? Искуситель доказывает ангелу, что чистых отношений в мире денег нет и быть не может. И, чтобы доказать свою правоту, ангел должен найти среди миллионов людей ту пару, которая любит друг друга чистой и светлой любовью.

Влюбленные найдены, но, как того и требует тема борьбы добра и зла, искуситель делает все, чтобы эти люди не встретились. Правда, встреча все же состоялась, но только не на земле, а на небесах.

Режиссер-постановщик Сергей Змитрович своей работой добился того, чтобы то, что происходит на сцене, отразилось в душе зрителей. Говорят, на пробном показе спектакль вызвал живую реакцию публики — был и смех, были и слезы.

## Вспомним Николая Третьякова...

*16 марта в Концертом зале "Минск" состоится благотворительный концерт под названием "Здравствуй, друг!".*

Концерт посвящен памяти поэта-песенника Николая Третьякова, песни написанные которым входят в репертуар многих белорусских исполнителей. Решение организовать концерт в память о трагически ушедшем из жизни год назад поэте-песеннике возникло давно и нашло поддержку на самых разных уровнях. Интересно то, что весь сбор от концерта пойдет на возведение памятника Николаю Третьякову.

Организаторами концерта являются продюсерский центр Александра Тихановича и Ядвиги Поплавской "Профиартвидеон" и телекомпания "Столичное телевидение".

В программе будет участвовать весь цвет белорусской эстрады: Государственный ансамбль "Песняры", Ярослав Евдокимов, Ядвига Поплавская и Александр Тиханович, Анатолий Антоненко, Александр Солодухо, Инна Афанасьева, Валерий Дайнеко, Анатолий Длузский, Искуи Аболян, Владимир Ухтинский, Дмитрий Смольский, Сергей Минский, Кирилл Слука, Галина Шишкова, Ульяна, Никита, а также оркестр Вооруженных сил Республики Беларусь под управлением А.Федорова. В концерте также примут участие известные белорусские композиторы Игорь Лученок, Эдуард Зарицкий, Валерий Иванов, Олег Елисеенков, Анна Козлова, Вячеслав Бобков, Владимир Будник, писатель Николай Чергинец, поэты Олег Жуков, Сергей Прокопович, Федор Боровой.

**Наталья ГУСЕВА.**

НУ И НУ!

## Ниязов против длинных волос

Президент Туркменистана Сапармурат Ниязов издал указ, запрещающий молодым людям носить длинные волосы и бороды.

В стране уже нельзя слушать радио в автомобилях, курить на улицах. Последнее решение никак не объясняется властями, но, как передает корреспондент Би-Би-Си в регионе, указ, похоже, направлен на искоренение любых проявлений индивидуализма.

Ранее президент Туркменистана распорядился, чтобы на территории республики было усилено наблюдение с использованием видеоаппаратуры. Камеры наблюдения будут установлены на промышленных объектах, например, на нефтеперерабатывающих заводах, а также в банках и на железнодорожных станциях. Согласно указанию Ниязова, в Туркменистане муха не должна пролететь незамеченной.

## Принц Чарльз повредил нос об изгородь

Наследник британского престола принц Чарльз появился на публике, щеголяя ссадиной на переносице. Официальные лица объяснили, что принц поцарапался, натолкнувшись на изгородь. Травмированный Чарльз встречался со студентами курсов по уходу за животными в северном Йоркшире. Во время посещения ярмарки животных в Скиптоне его познакомили с ящерицей "бородатый дракон", мышами, насекомыми и пауком-тарантулом.

КРИМИНАЛ

## Взятки за липовые бюллетени

*Некоторые пациенты-мужчины, посещавшие гомельскую поликлинику № 1, остро нуждались в лечении. Симптомы болезни (эпидемия в городе отсутствовала) были одинаковы — головная боль, сухость во рту, тремор пальцев рук и... полное отсутствие желания появляться на работе. Помогал таким больным в избавлении от физических и моральных страданий участковый терапевт Павел Давидович, хотя пациентам был необходим врач другого профиля — нарколог.*

За 10—15 тысяч "зайчиков" страдальцы получали больничные листы с освобождением на несколько дней от выполнения трудовых обязанностей. Иногда было достаточно бутылки коньяка с коробкой конфет, чтобы в графе "заболевание" был поставлен шифр "ОРЗ".

Слава о чудо-целителе распространилась не только по микрорайону "Старый аэродром", который обслуживает поликлиника, но и далеко за его пределами. Не прошла она и мимо компетентных органов — при получении вознаграждения в 50 "зеленых" за выданный бюллетень с фиктивным диагнозом врача задержали с поличным.

Как недавно указал в приговоре суд Железнодорожного района Гомеля, Давидович с августа 2000 г. по август 2003 г. принимал от граждан материальные ценности, предоставляемые ему исключительно в связи с занимаемым должностным положением, за благоприятное решение вопросов, входящих в его компетенцию, связанных с внесением из корыстной и иной личной заинтересованности заведомо ложных сведений о заболеваниях пациентов в листы временной нетрудоспособности и выдачу фиктивных больничных листов гражданам..."

Эта длинная цитата переводится на доступный язык весьма просто — получал взятки за липовые бюллетени.

Заканчивается приговор суда вполне доступной для понимания фразой — "шесть лет лишения свободы в исправительной колонии усиленного режима" и в комментариях не нуждается.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**







# 10 сакавіка

**СЕРАДА**
Усх. 6.37 Зах. 18.05
Даўж. дня 11.28
Апошняя квадра 13 сакавіка

**90 гадоў** з дня нараджэння Г.І. Братчыкава (1914—1944), Героя Савецкага Саюза, удзельніка партызанскага руху ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях у Вялікую Айчынную вайну

## Среда, 10 марта

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**08.45, 12.10, 16.45, 23.50** "Моя страна".
**09.15** Сериал **"Мерлин Монро".**
**10.05, 20.05 "Время — деньги".** Сериал.
**11.05, 17.25 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.25** Худ.фильм **"Дорогой мой человек".**
**14.15** "На перекрестках Европы".
**15.10** Сериал **"Студенческая жизнь".**
**16.05** "5х5".
**17.05** "Маски-шоу".
**18.30** "Кстати".
**19.05** Сериал **"Одиссея".**
**21.00** "Панорама".
**21.40** Футбол. Лига чемпионов. 1/8 финала. "Монако" (Франция) — "Локомотив" (Москва).
**23.35** "Чемпионы. Александр Хацкевич".
**00.00** Футбол. Дневник Лиги чемпионов.

### ОНТ

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.45** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05** Сериал **"Клон".**
**09.55, 21.00** Сериал **"Отель исполнения желаний".**
**10.35** "Дом".
**11.20** "Не только о футболе".
**11.40** Дисней-клуб.
**15.10** "Город женщин".
**16.00** Сериал **"Берег мечты".**
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Дом".
**20.00** Время.
**21.45** Сериал **"Любительница частного сыска Даша Васильева".**
**22.45** Сериал **"Улицы разбитых фонарей-5".**

### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал **"Тайны следствия-3".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.50, 22.20** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.20, 19.30** Местное время. Вести—Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.00** Сериал **"Пан или пропал".**
**16.10** Сериал **"Люди и тени".**
**17.05** Сериал **"Главные роли".**
**18.00** Сериал **"Вкус убийства".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** Вести+.
**22.35** Фильм **"Утомленные солнцем".** 2-я серия.
**00.10** Фильм **"Ребро Адама".**

### ЛАД

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** Площадь искусств.
**08.35, 22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.35** "Сад мечты".
**10.05, 18.25** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15** Сериал **"Грешная Анжелика".**
**11.15, 12.55** "Обычный необычный день".
**11.50, 18.45** Сериал **"Американская трагедия".**
**13.25** Мультфильмы.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.25** "Не зевай!".
**15.35** Тележурнал "Бум".
**16.05** "Моя дорогая маленькая планета". Мультфильм.
**16.10 "Неизвестный Наполеон".** Сериал.
**16.30 "Все кого-то любят".** Худ.фильм.
**17.20** "Росчерк времени".
**17.35** Сериал **"Приключения Шерлока Холмса".**
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** Кулинарный поединок.
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.40** Сериал **"Таксист".**
**19.50** Сериал **"Свободная женщина-2".**
**21.00** "Страна и мир".

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40** "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры". Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.15** "Минск и минчане".
**08.20, 23.05** "Технология".
**08.35** "Автопанорама".
**08.55** "Закон и криминал".
**09.10** Фантастический фильм **"Авалон".**
**10.55** "Эти эксцентричные люди". Док.фильм.
**11.30** "Горячий лед".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Тайные информаторы Кремля". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Домик с собачкой".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или ОбнаЖить шпаги".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** "Вовка в тридесятом царстве". Мультфильм.
**16.20** "Тема дня".
**17.00 "Вовочка-3".** Сериал.
**17.30 "Агентство".** Сериал.
**18.15** "Планета людей".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Мелодрама **"Вблизи от рая".**
**23.15** "Ведьмы эры Водолея". Док.фильм.
**00.00 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.45** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 "Скала".** Художественный фильм.
**19.10** К-видео — "Топ-8".
**19.30 "Приключения Шерлока Холмса".** Многосерийный фильм. **"Собака Баскервилей".** 2-я серия.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Европа сегодня".
**21.30 "Миссия невыполнима".** Художественный фильм.

### ТВ ЦЕНТР

**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45, 19.00 "Приключения мага".** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 18.50, 21.00, 23.35** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** Песочные часы.
**11.35** Народные средства.
**11.55** Квадратные метры.
**12.10, 20.00** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** Мода non-stop.
**15.00** Регионы. прямая речь.
**15.30** Ступеньки.
**16.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**17.15** Наши соотечественники.
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.55** Пять минут деловой Москвы.
**20.25** Выборы-2004.
**21.40** Фильм **"Заплыв слепых".**
**22.25** Времечко.
**22.55** Фильм **"Заплыв слепых".**
**23.55** Серебряный диск.
**00.15 "Парижский полицейский".** Сериал.
**01.05** "Синий троллейбус".
**04.45** "Настроение".

### EUROSPORT

**09.30** Экстремальные виды спорта.
**10.00** Сноуборд.
**10.30** Горные лыжи.
**12.00** Журнал.
**12.30** Прыжки с трамплина.
**13.30** Горные лыжи.
**14.45** Еврoголы.
**15.45** Футбол.
**16.15** Велоспорт.
**17.45** Прыжки с трамплина.
**20.30** Конный спорт.
**21.30** Гольф.
**23.00** Тест драйв.
**23.30** Прыжки с трамплина.
**01.00** Экстремальные виды спорта.
**02.00** Футбол.



**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 730 экз. Заказ № 603.